Газета заснавана ў 1931 годзе. Аднаўлена ў 1999 годзе.

# Голас Пружаны

№ 1 (1)
Пятніца,
2-8 чэрвеня
2000 года

Штотыднёвая незалежная грамадзка-палітычная газета

Кошт свабодны

От редакции

## Уважаемые земляки!

Вы держите в руках первый номер возобновлённой независимой газеты «Голас Пружаны». Возобновлённой, потому, что в истории нашего города имело место такое издание с 1931 по 1939 годы.

Отдавая дань истории (с1589 - по1939 год наш город назывался Пружана), редакция газеты сохранила довоенное название и будет стремиться, чтобы «Голас Пружаны» звучал не фальшиво и достаточно громко, во имя правды, добра и справедливости, в защиту слабого перед сильным.

«Голас Пружаны» независимая газета в том смысле, что она не принадлежит какой-то одной партии или группе. Одновременно это означает, что любая точка зрения на происходящие в регионе события может прозвучать на страницах нашей газеты.

Мы открыты для молодёжи и школьников, рабочих и колхозников, предпринимателей, представителей власти и оппозиционных партий.

В ближайшее время «Голас Пружаны» планирует выходить с цветным вкладышем рекламы и программой на 12 каналов телевидения, в том числе НТВ, Мир Кино, Наше Кино, ТВ-6.

Газету можно приобрести в киосках «Союзпечати» и у частных распространителей.

## У Пружанах будзе гімназія

Рашэннем Пружанскага райвыканкама ад 25 красавіка 2000 года №533 пастаноўлена рэарганізаваць Пружанскую СШ №2 у гімназію.

Навучанне ў гімназіі будзе адбывацца на рускай мове. Гімназія ахопіць 5 – 11 класы, але пачатковая школа пры гімназіі пакуль захоўваецца.

Першы год навучання 2000 - 2001 – пераходны. Гімназічнымі будуць толькі 5, 8, 10 класы. Прыём у гімназію (а ў гэтым навучальным годзе ў гімназічныя 5, 8, 10 класы) з 20 па 25 жніўня, на конкурснай аснове.

Уставам гімназіі зацверджана, што прымаць удзел у конкурсе маюць права вучні, якія скончылі пачатковую школу без троек - у 5 клас, а ў астатнія класы пры наяўнасці не больш 3-х здавальняючых адзнак.

Прыём у гімназію будзе праводзіцца ў залежнасці ад наяўнасці жадаючых. Пры вялікім конкурсе, могуць праводзіцца кантрольныя працы па матыматыцы і мове.

Пачынаючы з 8-га класа ў гімназіі будуць тры профілі: фізіка-матэматычны, хіміка-біялагічны, грамадска-гуманітарны.

Напаўняльнасць класаў – 20 – 25 чалавек. Выкладаць у гімназіі будуць настаўнікі з першай і вышэйшай катэгорыяй, а таксама маладыя перспектыўныя настаўнікі з другой катэгорыяй.

— Навошта нашаму гораду гімназія? – мы запыталіся ў дырэктара СШ №2 Цубера Уладзіміра Ефімавіча:

— Гімназія патрэбна для таго, каб вучні маглі лепш раскрыць свае магчымасці, таленты... атрымаць веды на больш вышэйшым узроўні. А ў выхаваўчым плане мэта гімназіі – вырасціць выхаваных, культурных, усебакова развітых, адказных людзей.

Яшчэ ад Уладзіміра Яфімавіча мы даведаліся, што стварэнне гімназіі – менавіта яго ініцыятыва. Гэтае пытанне стала так актуальна таму, што з 2001 навучальнага года школы-гібрыды існаваць не будуць. Ці толькі школа, ці – гімназія.

У нашай гімназіі будзе цэлы год на адаптацыю.

Хочацца спадзявацца, што гэтае пачынанне дасць добрыя вынікі. Усе планы Уладзіміра Ефімавіча – спраўдзяцца, і ў Пружанах будзе свая гімназія!

Жадаем поспеху!

**Святлана Талакнянік**

Открытое письмо президенту

## Уважаемый Александр Григорьевич!

К вам обращается трудовой коллектив Порослянской СШ Пружанского района Брестской области в связи с нарушением сроков выплаты заработной платы. Согласно статьи 73 Трудового кодекса, заработная плата должна выплачиваться в дни, определённые коллективным договором (Соглашение). В нашем случае – это 5-10 числа следующего месяца (пункт 3.3.4 районного Соглашения). Последние три месяца заработную плату мы получали с опозданием в 15-20 дней. Из-за этого мы не можем своевременно оплатить счета за бытовые услуги, пользование телефоном, внести своевременно взнос за взятые. Нас наказывают, заставляя платить пеню, штрафы. И это при нашей – то нищенской зарплате.

Мы обращались в отдел образования, райисполком с требованием недопущения задолженности по заработной плате, на что нам ответили, что согласно форме №1-Т, утверждённой приказом Министерства статистики и анализа 26 июня 1999г. №171 просроченной задолженностью по заработной плате считается задолженность на последний день месяца, следующего за отчётным. Мы с этим не согласны. Но даже если это так, то форма №1-Т противоречит 73 статье Трудового Кодекса. Для разъяснения ситуации мы обращались к премьер-министру Ермошину. На наше письмо мы получили формальную отписку: «Ваше письмо направлено для рассмотрения Брестскому облисполкому». В своём ответе Брестский облисполком уведомил нас в том, что «Вопрос приведения инструкции Министерства статистики по заполнению отчёта о просроченной задолженности по заработной плате в соответствии с Трудовым Кодексом Республики Беларусь находится в компетенции республиканских органов управления. О чём направлено письмо в Совет Министров Республики Беларусь».

На наше предложение выплачивать заработную плату работникам аппарата райисполкома после полного расчёта с работниками бюджетной сферы, Брестский облисполком ответил, что «Заработная плата работникам Пружанского райисполкома выплачивается с задержкой, как и всем работникам социальной сферы, хотя на самом деле это не соответствует действительности.

Уважаемый Александр Григорьевич, статьёй 468 Трудового Кодекса Вы обязали Правительство пересмотреть нормативные акты, противоречащие Кодексу. Из-за нерасторопности чиновников страдаем мы, Ваши избиратели !

Александр Григорьевич!

Употребите власть! Заставьте уважать Трудовой Кодекс и Вас! Ведь его подписали Вы!

**Трудовой коллектив Порослянской СШ**




Калі ў вас, жыхароў г. Пружаны, нехта на вуліцы запытацца: "Што такое "Ойра"? – адказаць змогуць можа самыя дасведчаныя ў пытаннях танцавальнага мастацтва, і то не дакладна.

Але знаёмства пружанцаў з фальклорным тэатрам танца "Ойра" ўжо адбылося 7 мая, на канцэрце прысвечаным Дню Перамогі. Артысты новага тэатра вельмі паспяхова дэбютавалі на сцэне Дома культуры з танцам "Кадрыля", пра што сведчылі апладысменты і падзякі гледачоў.

Тэатр танца "Ойра" нарадзіўся пры грамадскім аб'яднанні "Яравіт". Стварылі яго людзі, для якіх танец – частка жыцця. Век артыста танца кароткі, а развітвацца з любімай справай вельмі не хочацца. У пачатку года ў"ветэранаў" ансамблю народнага танца "Завіруха", "Спадчына" з'явілася магчымасць сабрацца усім у адзін калектыў . І яна была скарыстана.

Дык дзе ж шукаць

**заканчэнне на 2 старонцы**

## НАВІНЫ

26 траўня ў Менску адбылася прэзентацыя сацыяльна-рэабілітацыйнага цэнтру для моладзі «Выратаваньне». Мэтай гэтага цэнтру ёсьць дапамога маладым людзям, якія хочуць пазбавіцца ад наркатычнай ці алькагольнай залежнасьці. Ініцыятарам гэтага дабрачыннага праекту стала моладзевая гуманітарная асацыяцыя імя Еана Баско. Цэнтар будзе разьмяшчацца пад Заслаўем. 17 катэджаў ужо гатовыя прыняць пацыентаў агульнай колькасьцю да 200 чалавек. Праўда, праца ў цэнтры пачнецца толькі з новага году. Мяркуецца, што за лячэньне з пацыентаў будзе зьбірацца пэўная плата. Яшчэ адзін падобны цэнтар асацыяцыя плануе адкрыць у Серабранцы.

На мінулым тыдні праваслаўныя вернікі Берасьцейшчыны адзначалі юбілей, 160-годзьдзе ўтварэньня Берасьцейскай эпархіі. Эпархія была ўтвораная праз 45 год пасьля далучэньня земляў Рэчы Паспалітай да Расейскай імперыі, у 1840 годзе. На працягу ўсяго XIX стагодзьдзя-пачатку XX праваслаўная царква актыўна дзейнічала ў палескім рэгіёне. Падчас знаходжаньня Заходняй Беларусі у складзе Польшчы сытуацыя ў канфэсыі значна ўскладнілася, пасьля вайны Берасьцейская эпархія была наогул зьліквідаваная, адноўленая толькі ў 1990 годзе. На сёньняшні дзень у адміністрацыйнай адзінцы праваслаўнай царквы, якая ўключае ў сябе заходнюю палову вобласьці, функцыянуюць каля 150 цэркваў, кіраўніком ёсьць уладыка Канстанцін. З нагоды юбілею ў нядзелю ў катэдральным саборы Берасьця прайшла ўрачыстая служба.

Цікавую пастанову выдалі чыноўнікі слуцкага гарвыканкаму. Справа ў тым, што не так даўно мясцовыя настаўнікі вырашылі правесьці пікет, пратэстуючы супраць нізкіх заробкаў. Настаўнікі занесьлі заяву ў гарвыканкам і ў хуткім часе атрымалі адказ у выглядзе палажэньня «Аб парадку аплаты расходаў, зьвязаных з правядзеньнем масавых мерапрыемстваў у г. Слуцку.» Цяпер мітынгоўшчыкам прыйдзецца спачатку перавесьці на рахунак грошы ў памеры шасьці мінімальных заробкаў і прадставіць квіток у выканкам. Пасьля ўсіх працэдураў можна ісьці й пікетаваць.

**БАРЦ**

пачатак
на 1 старонцы



“Ойру”? На гэтае пытанне вы не атрымаеце адказу нават у мастацкага кіраўніка тэатра М. Пілюціка:

На сённяшні дзень нованароджаны калектыў не мае пастаяннага месца для заняткаў. Жадаючых танцаваць многа, але з-за адсутнасці базы, мы не можам запрасіць усіх. Маем таксама праблемы з касцюмамі, музычнымі інструментамі. Не гледзячы ні на што, тэатр працуе. Пакуль гэта толькі сем пар.

Праграма калектыву пабудавана на мясцовым фальклоры пачатку XX стагоддзя. Гэта не толькі танцы, але і песні, гульні, прыказкі, казкі. Адным словам – тэатр танца.

- Чаму ў калектыва, які існуе пяць месяцаў да гэтага часу няма пастаяннага месца мы запыталіся ў Старшыні Рады Пружанскага грамадскага аб'яднання “Яравіт” Машкала І. С. Ён нам расказаў, што ад імя “Яравіта” звяртаўся да дырэктара Школы Мастацтваў Малайчука Я.С. каб дазволілі заняткі на базе харэаграфічнага аддзялення. І такая магчымасць некаторы час была. Але пасля публікацыі у “Раённых Буднях” падзякаў у адрас Якава Сямёнавіча “Ойры” прыйшлося шукаць іншага месца для рэпетыцый. Звярталіся з гэтым пытаннем і ў райвыканкам, але безвынікова.

Што ж атрымліваецца, у нас у Пружанах існуе падпольны тэатр танца? Так, на жаль падпольны. Хоць выступае перад горадам і не адмаўляе ў дапамозе пры падрыхтоўцы свят.

Можа кіраўнікі нашага горада яшчэ раз звярнуць увагу на гэтую праблему?

Заўсёды можна знайсці кампраміс, трэба толькі пажадаць.

Дзе ж шукаць “Ойру”? Адказваць на гэтае пытанне мы пакуль не будзем таму, што тэатру зноў прыйдзецца шукаць новае прыстанішча.

*О.Р.: Мы будзем сачыць за лёсам тэатра танца “Ойра” і, мабыць, у хуткім часе на нашых старонках вы даведаецеся аб гэтым калектыве больш падрабязна.*

С.Т.

# Ірландыя - Беларусь



У час сустрэчы Ірландскай дэлегацыі ў райвыканакаме

У другой палове мая г.Пружаны наведала Ірландская дэлегацыя ў складзе дырэктара дабрачыннага фонду “Дапамога сіратам Чарнобылю” Джона Джозефа Барры і трох Сяброў Рады.

Гэта адна з многіх дабрачынных арганізацый Ірландыіі, якая на працягу дзесяцігоддзя дапамагае пацярпелым ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.

Памеры дапамогі, якую аказвае Беларусі 3-х мільённы народ Ірландыі можна параўнаць з дапамогай такіх краін як Германія і Італія.

Такую увагу і клапат да беларусаў самі ірландцы тлумачаць блізсцю праблем нацыянальна – культурнага адраджэння, якія даводзіцца вырашаць і ў Беларусі, і ў Ірландыі.

У мінулым годзе фонд “Дапамога сіратам Чарнобылю” аказваў дапамогу пацярпелым ад аварыі на Украіне.

Джякуючы добрым кантактам Пружанскага ксёндза-дэкана Эдварда Лоека з ксёндзам-місіянерам Паулам Рошам гэты фонд будзе аказваць таксама гуманітарную дапамогу жыхарам Берасцейшчыны праз дабрачыннае аб'яднанне “Карытас”.

Канвой з на трох грузавіках з гуманітарнай дапамогай ужо прыбыў на Беларусь. Частка гэтай дапамогі будзе размеркавана паміж найменш забяспечанымі грамадзянамі, сіратамі праз Пружанскае дэканальнае аддзяленне каталіцкай дабрачыннай арганізацыі “Карытас”.

На сустрэчы Ірландскай дэлегацыі з прадстаўнікамі грамадскасці і мясцовай улады ў Пружанскім райвыканкаме Намеснік Старшыні Пружанскага райвыканкама І.С. Казарэз выказаў шчырую ўдзячнасць Фонду за прапанову гуманітарнай дапамогі.



У час сустрэчы Ірландскай дэлегацыі з навучэнцымі падрыхтоўчага беларускамоўнага класа СШ №5.



Пружанска-Шарашоўскі вакальны ансамбль “Атава” вельмі добра сябе адчувае на вуліцах Кракава.

# Талент і да Кракава давядзе

Вакальная група “Атава” якая ўтварылася ў пачатку 2000 году з ліку моладзі г.Пружан і Шарашова паспела падрыхтаваць цікавую праграму з якой выступла на штогадовым міжнародным конкурсе рэлігійнай песні “Вінцэнціяна”- 2000.

Паводле ўмоваў конкурсу неабходна было выканаць творы ўласнага сачынення.

Нашы артысткі Кісялевіч Насця, Васькевіч Марына, Зубялевіч Ірына, Семісотава Крысціна, Лагун Оля пад кіраўніцтвам Святланы Машкла сярод прадстаўнікоў сямнадцаці краін свету занялі чацьвёртае месца.

ГІСТОРЫЯ

# Ключ Пружанскі. Горад Пружана. Гарадскі прывілей.

Жыгімонт III і г.д. сьвядома робім гэтым нашым прывілеем, каму аб тым ведаць належыць, як цяперашнім, так і будучым.
Калі ад найяснейшай Ганны, з ласкі Божай Каралевы Польскай, цёткі нашай найкаханейшай гораду Пружане і жыхарам яго за іх ласкі і дабрачыннасць права магдэбургскае і іншыя вольнасці ў праве сваім рэфармаваным, не меней жадае лепш абгрунтаваць і асабістым сваім прывілем падараваць, аб чым прасілі магістрат і жыхары таго горада Пружаны, просьбе гэтай ласка і дабрачыннасць наша каралеўская.
Па прыкладу іншых гарадоў Каралеўства і Вялікага княства Літоўскага права магдэбургскае даць і да яго належаць згодна з гэтымі ліцэнзіямі і дазволам цёткі нашай найкаханейшай, дазволам нашым каралеўскім зацвердзіць пажадалі на доўгія вякі;
і як іншымі вольнасцямі радаваць сябе прывыклі, напрыклад як прывілеем і іншымі дазволамі, для таго і мы гораду Пружане і жыхарам яго не жадаем нашкодзіць. Найперш гораду Пружане і жыхарам яго права магдэбургскае, якім іншыя гарады нашыя Каралеўскія і Вялікага княства Літоўскага карыстацца прывыклі, дазваляем адхіляць ад гэтага часу ад горада Пружаны і яго жыхароў ад усіх абавязкаў земскіх літоўскіх, або рускіх, якія самому магдэбурскаму праву нашкодзіць маглі, і болей таго, усіх жыхароў упамянутага горада нашага ад іх уласнікаў, ад усялякай улады і ваяводскага суду, каштэлянаў, старастаў і падстарастаў, іх наменікаў, і іншых чыноўнікаў вызваляем, але тым мяшчанам тлумачым, каб ніякім іншым судом судзіць сябе не дазвалялі, акрамя магдэбургскага: які ўжо каторы век асобны, і які на вякі застанецца пры судах за малыя так і за вялікія злачынствы, як напрыклад: крадзеж, хуліганства, калецтва і іншыя выпадкі і праявы, нікому ўмешвацца да таго хоць найменш недазваляем.
Адным толькі мяшчанам дазваляем радзіць, і адносна віны кару назначаць, перад войтам правам магдэбургскім судзіць будуць.
Войт будзе дапытваць і калі якія цяжкасці сустрэнуцца — раіцца будзе.
Да ўпамянутага войта належыць зьвяртацца як і да нас.
Мяшчанам дазваляем выбіраць сабе войта, які будзе мець уладу над усімі крымінальнымі і іншымі справамі мяшчан.
Войт мае вялікую свабоду ў горадзе ў справах суду, узмацнення ці паслаблення пакарання, прысуду на горла (смяротнага пакарання * заўвага рэдактара),
дакуль само права магдэбургскае ў сваіх галоўных інтарэсах патрабуе;
сам войт савайго намесніка, бургамістра, райцаў, лаўнікаў, асабліва для збору чыншаў, складання падаткаў, усіх пабораў мясцовых будзе прызначаць. Сабраўшы падаткі, праз старасту, ці эканома нашага, на той час знаходзячагася ў Кобрыне, кожны год у цэласці аддаць павінен. І так як ужо ў аднадушнай згодзе выбралі і цяпер нам прадставілі войта свайго, шляхціца Барталамея Мазавецкага, да той пасады і гонару годным убачылі, і таго ж Барталамея Мазавецкага на тое войтаўства Пружанскае зацьвярджаем і ўстанаўляем.
Яму і яго памочнікам за войтаўства ў горадзе Пружана дзве валокі зямлі, адна вольная, здаўна фундавана для войта, другая ў вёсцы Мікітычах, праз цяперашняга старасту нашага назначаем і доўгі час трымаць дазваляем. Апроч таго дазваляем яму і яго намеснікам мець ўсялякі прыбыткі ад судоў, які на яго ісці будзе, а нам і нашым намеснікам ніякай выгоды праз тое не будзе.

заканчэнне
на 3 старонцы

Жадаем апрача таго тым жа мяшчанам нашым Пружанскім, найвялікшую нашу ласку паказваючы, дазваляем ім мець крамы купецкія, ці інакш лаўкі, пры тым яткі (мясныя лаўкі*), васкабойні і вагі васковыя, апрача таго збожжа і мёду меры мець дазваляем, і вольныя кірмашы з адбіраннем падушнага, памернага, сталповага і лапаткавага.
Да правоў таго ж гораду Пружаны пячатку, ці інакш — герб на якім будзе вужака малы кручаны ў пашчы якога дзіця напалову высунутае. Дазваляем апрача вышэй сказанага тым мяшчанам нашым Пружанскім вольнасць на выраб піва, мёду, гарэлкі, віна, а таксама іх продаж для пажытку саміх жа мяшчан. Ад прыгатаванага піва, мёду — ўсяго хто тым шынкуе пабор ці коп названы да скарбніцы нашай кожны 60 грошай літоўскіх плаціць павінны.
За віно і гарэлку арэнды 100 злотых манет польскіх, ці самі мяшчане Пружанцы нам заплацяць, ці войт кожны год у дзень Святога Марціна праз старасту, або эканома нашага Кобрынскага ў цэласці выплаціць павінны. Прыбыткі паводле даўняга звычаю праз войта прызначанага, або праз бурмістра заўсёды гатовы даць.
Аднак, звальняем іх (мяшчан) ад падвод да дзяржавы(гаспадаркі) Пружанскай, або Замку.
Гэтых мяшчанаў а ні стараста, ці эконом наш Кобрынскі, ні яго намеснікі абцяжарваць не павінны. Такім жа чынам і ад стражы, хіба што пад час войны, або ў выпадку скасавання прывілею нашага каралеўскага мяшчанам Пружанскім.
Дазваляем браць дрэва на паліва і будоўлю ў лесе нашым Кобрынскім (на ратушу асобна), лоўлю рыбы ў рацэ названай Мухвец, датуль, пакуль да гораду належыць.
Апрача нядзельных, заўсёды торгі ў пятніцу, якія з даўніх часоў устаноўлены.
Кожны год будуць мець два кірмашы: адзін на раніцу пасля Святой Троіцы, другі на свята Праабражэння Гасподнага, пад час якіх купцы — жыхары горада, а таксама прыезджыя, могуць рэчы і тавары выстаўляць, прадваць, купляць, тавар на тавар гандляваць і ішым карысным гандлем займацца.
Шляхта, якая сваі ўладанні ў горадзе Пружана мае, юрысдыкцыі мясцовага суду падлягаць павінна. І ўсе тыя вышэй названыя пункты ад найважнейшага да найменьшага жыхары горада Пружаны паважаць павінны многія вякі, так як і іншыя гарады нашыя і асабліва Брэсцкія.
Дзеля гэтых усіх выказаных пунктаў і дзеля іх лепшай праўдзівасці гэты прывілей рукой нашай падпісаўшы, пячатку Вялікага княства Літоўскага прыкласці загадалі.

Дадзены ў Варшаве дня 6, месяца траўня, году 1589,
а панаванню нашаму год другі.
Жыгімонт кароль.

**Са старажытнапольскага пераклаў Язэп Машкала**

## У добры шлях!

Скончыў харэаграфічнае аддзяленне школы мастацтв імя Р. Шырмы чарговы клас. Да гэтага дня і навучэнцы, і педагогі, і бацькі ішлі шэсць гадоў. Так здарылася, што з гэтым класам працавалі ўсе педагогі харэаграфічнага аддзялення. Набірала вучняў Двараткіна Т. М., далей з імі працавалі Зарэчневая Т. А., Братыкова Н. А., Пілюцік В. М.

Будзем спадзявацца, што калектывы нашага горада папоўняцца новымі маладымі прафесіянальнымі танцорамі. А можа, у нашым самым танцуючым горадзе з'явіцца яшчэ адзін калектыў. Будзем чакаць!

## *Как живешь, «Мухавец»?*

День физической культуры и спорта, 20 мая, был отмечен в Пружанах товарищеским футбольным матчем между Сборной ветеранов и Сборной молодёжи. Игра проходила на равных. И только в середине второго тайма игроку Сборной молодёжи Шаталову Алексею удалось забить гол. Но ветераны проявили характер, и в конце второго тайма пенальти в ворота Сборной молодёжи чётко реализовал Валюкевич Александр. Боевая ничья 1:1. От спорткомитета обеим командам были вручены денежные премии. (Лирическое отступление) Подрастает талантливая молодёжь, есть неплохие опытные игроки. Жаль только, что играть им негде. Былой команды «Муховец» как таковой не существует, она не заявлена на Чемпионат области. А в ФК «Пружаны» играют лишь 2 «настоящих» пружанца. В каких же соревнованиях принимать участие своим пружанским любителям футбола?

**Елена Адамчук**

**СПОРТ**

# “Всё идёт по нарастающей...”

Три тура отыграла команда ФК «Пружаны» во второй лиге Чемпионата РБ по футболу. Первую игру «Пружаны» уступили команде «Пинск – 900» со счётом 1 : 3, потом последовала ничья с «Мозырем» 2 : 2, и наконец, победа. «Пружаны на своём поле переиграли команду «Березина» (Бобруйск) с заделом в два мяча. От поражения, через ничью к победе.

20 мая, 15 ч. 35 мин.
Стадион «Муховец»
г. Пружаны
«Пружаны»
— «Березина»
Судья: Скроб А.
(1 категория),
Столбцы.

Начало матча оказалось драматичным для бобруйской команды. Буквально на первых минутах получил серьёзную травму игрок «Березины» Багирян А. Судье показалось этого мало, он «подарил» ему ещё и жёлтую карточку. Вот тут-то и началось ещё одно представление (правда, не очень зрелищное), которое протекало независимо от игры на поле. Это один из бобруйских тренеров, на протяжении всего матча, периодически выбегал к кромке поля и с завидным азартом аппелировал к судье. Но, надо отдать должное судье, он выдержал натиск и хладнокровно раздавал направо и налево «жёлтые» карточки.

На поле в это время разворачивалась интересная игра. Опасные моменты возникали у ворот обеих команд, но всё-таки пружанцы атаковали более напористо, более разнообразно. Уже в первом тайме могли отличиться футболисты ФК «Пружаны» Ковальчук А., Петручик Э., Дмитрученя В., упустив прекрасные голевые возможности. Такую же голевую возможность для бобруйчан предоставил защитник «Пружан» Филатов О. Отдавал пас через центр, он выложил мяч бобруйскому нападающему, который «вышел» один на один с нашим вратарём. Тут уже Сахаруку С. пришлось продемонстрировать своё вратарское мастерство. И Сергей не подвёл, спас ворота «Пружан» от верного гола. Но всё-таки сохранить счёт «сухим» для команд в первом тайме не удалось. Чуйко Д. «размочил» ворота «Березины». В борьбе с бобруйским защитником он вошёл в штрафную площадку соперника и хорошо пробил «из-под игрока». На 31 минуте матча счёт становится 1 : 0 в пользу «Пружан».

Второй тайм начался с натиска бобруйчан. Уже на 2-й минуте второго тайма мяч чуть не угодил в «девятку» Пружанских ворот. Но пружанцы быстро справились. И какая прекрасная голевая возможность на 55 минуте матча была у Ковальчука А. Выход один на один с вратарём, в радиусе 10 метров – никого. Но бобруйский вратарь даже испугаться не успел – удар нашего нападающего был для него лёгкой разминкой. На 57 минуте матча за удар сзади по ногам соперника был удалён игрок «Березины» Бондарчук Р. Бобруйчане остались на поле вдесятером. Но это не было особо заметно. Более мощные футболисты «Березины» не только удачно оборонялись, но умудрялись периодически беспокоить нашего вратаря. До поры, до времени. На 87 минуте матча футбольный бог предоставил Ковальчуку А. ещё одну возможность для взятия ворот гостей, ещё один выход «тет-а-тет» с бобруйским вратарём. Александр реабилитировался, забив красивый гол в ворота «Березины».

2 : 0 – «Пружаны» выиграли.

Главные тренера обеих команд согласились после матча ответить на наши вопросы.

Главный тренер «Березины» (Бобруйск) Голомзик Виктор Евгеньевич.

— В.Е., что вы можете сказать об игре своей команды сегодня.

- Результатом, конечно, не доволен. Нашу игру сломал тот факт, что из строя на первых минутах матча был выведен Багирян А. Он один из основных игроков нашей команды, основа нападения. Равноценной замены ему не было. Играли, можно сказать, без нападения, на острие атаки – никого. Но радует, что ребята сражались. Даже после удаления с поля Бондарчука Р., когда наша команда осталась вдесятером, рук не опустили, а старались играть в свою игру.

- В. Е., у Вас есть претензии к судейству сегодняшнего матча?

- Судья судил слишком рьяно, «пересвистывал». Поспокойнее надо судить. Когда удаляли с поля Бондарчука Р., удаление должно было быть обоюдным, в обеих командах.

- В. Е., какое у вас впечатление от Пружанской команды?

- Команда неплохая, но как говорят «немного свежая», несыгранная. И если мои футболисты «вели» игру, то пружанцы использовали наши ошибки. Контратаки, при «свежести» команды – это правильная тактика, хорошо выбранная пружанским тренером.

- В. Е., могли ли Вы выделить кого-нибудь в «Пружанах»?

- Интересна линия атаки. Можно выделить №10 (Дмитрученя В.) и №11(Ковальчук А.). Неплоха линия защиты, в частности, №5 (Сычик В.). Хорош вратарь (Сахарук С.). Но как-то не особенно заметна линия полузащиты, или у «Пружан» такая тактика – сразу переправлять мяч из защиты в нападение. Полузащита игру «не вела».

- В. Е., напоследок, понравился ли Вам стадион в г.Пружаны?

- (После улыбки) Красивое место. Но это только «намётки» стадиона, хотя местное руководство обещало, что стадион будет.

«Березина» следующую игру проведёт дома, принимая обидчика пружанцев, команду «Пинск – 900».

Главный тренер «Пружан» Кудей Геннадий Николаевич.

- Г. Н., довольны ли Вы исходом матча и игрой своих подопечных?

- Результатом матча доволен. Игрой не совсем. Первый тайм отыграли здорово (вот так бы всегда), второй – хуже, как-то скомкано...




- Г. Н., выполнили игроки вашу тактическую установку?

- Я добиваюсь от игроков комбинационной игры с преимущественным держанием мяча «внизу». Ребята ещё сыгрываются, но если бы играли так как сегодня с «Пинском – 900», то возможно, результат и в первой игре Чемпионата был бы другим.

- Г. Н., какие аспекты игры вызывают тревогу?

- Тревогу вызывает нестабильная игра. Нет надёжности. Сегодня, например, в первом тайме более-менее всё получалось, а во втором – какие-то провалы.

- Г. Н., что вы можете сказать о бобруйской команде «Березина»?

- В команде играют молодые ребята. Часто желание выиграть перехлёстывает. Больше рвения, чем мастерства.

- Г. Н., как вы оцениваете работу судей?

- Судьи справились со своей задачей. Главный судья держал нити игры в своих руках.

- Г. Н., можете ли Вы выделить кого-нибудь в своей команде?

- Пожалуй, нет. Команда ровная, все примерно равны.

- Г. Н., есть ли в ФК “Пружаны” какие-нибудь проблемы?

- Проблем пока нет. Всё идёт по нарастающей...

**Елена Адамчук**

## Ко Дню защиты детей

# Праздник смеха в «Недельке»

Сегодня ни для кого не секрет, что семья переживает не лучшие времена. Возьмём хотя бы сухую статистику: в Белоруссии из 3 миллионов официальных семей 370 тысяч – неполные, в нашем же районе более 200 ячеек общества считаются неблагополучными. Задуматься есть над чем. Как же преодолеть кризис семьи, поднять её престиж? Работу в этом направлении дружно и активно ведёт коллектив детского сада №9 «Неделька» во главе с заведующей Ерёминой Натальей Васильевной.

15 мая, примерно с 16 часов сонный микрорайон больницы наполнился весёлой музыкой. На спортивном участке детского сада шли последние приготовления к празднику смеха «Юморина», который посвящался Международному дню семьи. Именно семьи и стали главными участниками сего действа. Для них были приготовлены весёлые конкурсы и задания, без смеха с ними справляться было просто не возможно. А там где юмор и дела спорятся.





Самым смешным заданием ребята-болельщики назвали конкурс «Запеленай ребёночка». От родителей команд участниц требовалось с помощью четырёх рулонов туалетной бумаги запеленать своё чадо с ног до головы. За считанные секунды на глазах у всех ребята-участники превращались в подобие маленьких мумий.

В паузах между конкурсами своё мастерство показывали местные детсадовские таланты: звучали весёлые детские песни в исполнении Жени Босака и Белицкой Вики. Выступил фольклорный ансамбль народных инструментов.

Ребятам-болельщикам тоже не давали засиживаться на местах, для них проводились игры, а так же была дана возможность каждой группе исполнить шуточный танец в поддержку своей команды.

Спортивный участок пестрел яркими газетами, которые выпустила каждая группа по случаю дня смеха. А корреспондентами этих газет были мамы и папы, дедушки и бабушки, приносившие в детский сад смешные высказывания и весёлые истории о своих детках.

Здесь нужно упомянуть и поблагодарить семьи-участницы конкурсов – семью Лемешевских, Осиповых, Мигиц, Кутишевских, а за прекрасное музыкальное оформление — Малайчука Александра Яковлевича.

Успех такому празднику был гарантирован заранее. Об этом свидетельствовало и большое количество зрителей: ребятня окрестных домов облепила все заборы, а спешащие прохожие замедляли шаг и забывали о своих делах.

День смеха удался, а помог ли он сплотить семьи – судить не нам. Главное же тот заряд бодрости и веселья, который получили все участники, болельщики и зрители на празднике хорошего настроения.

**Алеся Суббота**

## Каникулы, каникулы, веселая пора!

В последние деньки мая кто-то прощался со школой навсегда, а кто-то просто расставался с ней на лето. Ребятам-выпускникам, как известно, забот на ближайшие 2 – 3 месяца хватит: экзамены, поступления, волнения. А вот беззаботные школяры своей радости не скрывали. Это и понятно – впереди лето, свобода, новые друзья и новые приключения. А как именно собираются школьники провести летние каникулы, мы спросили у самих ребят после линейки в СШ №2 г. Пружаны.

Оля Олива, 6 «А»:

Первый месяц каникул собираюсь провести в лагере «Жемчужина», второй – дома, буду ходить на озеро, помогать маме, ну а последний хочу посвятить чтению книг, заданных на лето.

Ульянова Настя, 7 «А»:

Собираемся с родителями на Черное море, в Ялту. Ну а потом хочу встретиться с одноклассниками, пойти с ними в поход и научиться варить уху.

Жогал Андрей, 7 «А»:

Я с семьёй поеду отдыхать на озеро Нарочь. Хочется побывать в лагере, сходить в поход с ночёвкой, а ещё дожить до следующего учебного года.

Как видно, скучать ребята не собираются. Пожелаем им только хорошо отдохнуть, подрасти, набраться сил и 1 сентября быть в полной боеготовности покорять новые вершины знаний.

**Алеся Суббота.**

## Говорят дети



Эти россыпи детских улыбок были собраны на празднике смеха «Юморина» в детском саду №9 «Неделька».

**Янушкевич Аня гр.№9 (в 2 года)**

Идёт по ступенькам с кружкой в руке.

Мама:

- Осторожно, Анечка, не упади.

- Нет, я не упаду, я же за кружку держусь.

**Вероника Тараненко гр.№5 (3 года)**

Увидела морщинки на лбу у бабушки:

- А почему у тебя лоб полосатый?

**Лера Соболь гр.№9 (4 года)**

Говорит собаке:

- Тобик, не бойся, это мой папа!

Рассуждает вслух:

- Платье летовое, сапоги лужевые.

На вопрос, был ли в группе утренник 8 марта, отвечает:

- Нет, не дали подарков, не пришёл Дед Мороз.

**Аня Войтеховская гр.№12 (3 года)**

Дети с воспитателем поливают цветы.

Воспитатель:

- Дети, давайте вспомним, как называется этот цветок?

Дети:

- ...?

Воспитатель:

- Бе ...?

Аня:

- ... гом! Бегом!

**Даша Тихонович гр.№11 (4 года)**

Рассуждает:

Саша, ты мужчина, а я человек!

**Кристина Глушко гр.№5 (3 года)**

Называет соседа, у которого живёт кот Кузя, Кузин дядя.

**Катя Годуйко гр.№11 (4 года)**

Разговаривая с мальчиком:

- Саша, я замерзаю от любви!

**Катя Кутишевская гр.№13 (6 лет)**

Мама примеряет новое платье:

- Катя, красивое у мамы платье?

- Красивое, только юбки мало!

**Рома Бобрук гр.№10 (5 лет)**

Играя во дворе в мяч, разбил нос. Пришёл домой и плачет. Папа ему говорит:

- А я знал, что так и будет!

Рома сквозь слёзы:

- Если знал, то почему не сказал?

**Миша Фесюк гр.№5 (3,5 года)**

Успокаивая расплакавшегося Мишу, бабушка говорит:

- Ты своим криком весь дом поднял.

От удивления Миша застыл:

- Я ... дом поднял!?!

**Павел Менжинский гр.№7 (5 лет)**

- У меня вчера печень болела, наверно был печной приступ.

**Таня Усик гр.№7 (5 лет)**

А у моей сестрёнки Оли волосы такие же как у Насти: такого же цвета и короты (длины).

## Продаю:

- стиральную машину-автомат, 96 г., микроволновую печь Sharp, вытяжку кухонную, вентилятор офисный Atlant (все б/у, из Германии)
тел. 2-14-01;

- видеокамеру Panasonic M-3500
тел. 2-07-59

- сапоги женские, ботфорты (н.к.), Италия, р.39.
тел. 2-46-02

- автозапчасти (ВАЗ, Москвич).
тел. 2-33-89, 63-1-37

-участок с хоз. постройками в "Царском селе".
тел. 2-23-83




Пакапайцеся у сваіх фотаальбомах. Можа і ў Вас знойдзецца фотаздымак, які прымусіць Вас усміхнуцца. Падзяліцеся з намі сваёй усмешкай. Прысылайце свае фота і каментарыі да іх па адрасу:

***225140, г. Пружаны, вул. Заводская, 53***

Голас Пружаны

Рэг. № 1323 ад 16.07.1999 г.
Заснавальнік і рэдактар
Язэп Машкала

**Адрас рэдакцыі:**
225140, г. Пружаны, вул.Свабоды, 53
**Для пісем:**
225140, г. Пружаны, вул. Завадская, 16
**Телефон:**
(01632) 2-00-40
**E-mail:**
Jaravit@mail.ru

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.

Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 2 чэрвеня 2000 года.

Час падпісання 14:00

Надрукавана ў Слонімскай узбуйненнай друкарні, г. Слонім, вул. Хлюпіна, 16.

Наклад 1000 экз.
Заказ №2077.